*Эдвард Мілітанян*

# *ПАВЕТРАНЫ ДОМ*



Мінск
Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# Паветраны дом



Я збудаваў з паветра дом,
Падмёў паветранай мятлой.
Павесіў лямпу тым жа днём,
Я запаліў у ім святло.

Я сплёў паветраны дыван,
Такі ж клінок
Скаваць я змог,
Узвёў паветраны паркан
І загадаў, каб двор Палкан —
Шчанюк паветраны — сцярог.

Я пасадзіў свой сад затым,
Я паказаць яго вам рад:
Усё паветранае ў ім —
І яблыні, і вінаград.



Я шмат паветраных дароў
Сабраў у садзе ўсім на здзіў.
За стол паветраны сяброў
Да самавара пасадзіў.

Паставіў дом я назаўжды,
Яму не страшны дождж і град.

Але ад ветрыку — куды
Адплыў мой дом,
Адплыў мой сад?

І ўбачыў я, як над сялом
Дыван паветраны ляцеў,
Ляцеў мой сад,
Ляцеў мой дом,
А ля дзвярэй шчанюк сядзеў.



# Крыўда



Раз у крыўдзе ды ў тузе
Чаравік сказаў назе:
«Ты найзлейшы вораг мой,
Што зрабіла ты са мной?!

Ты мяне парой любою
Гоніш, пхнеш перад сабою
З дому ў горы,
З гор — на брук.
Што ні крок —
Пакута. Грук!

Мне спакою не даеш,
Кожны дзень мяне вядзеш
Па жарстве,
Па камянях,
Па ярах,
Карчах і пнях,
Па балоце,
Па пяску,
Па надрэчным беражку,
Па сцяжыначцы крывой,
Што бяжыць перад табой
Цераз поле,



Цераз гай —
Толькі тупаць паспявай!



Я, хоць часта не хачу,
Па мячы луплю, скачу,
Б'ю па пластыкавай шклянцы,
Па кансервавай бляшанцы,
Ад чаго мой збіўся нос,
Ты ж маіх не бачыш слёз.



Гразь тапчу,
Траву густую,
Як па ёй куды прастую.

Мне абрыдла ўжо скакаць.
Біць, таптацца, уцякаць.
Захацелася мне трохі
Адпачыць пасля дарогі,
Паўгадзінкі б хоць займець —
На нябёсы паглядзець».



# Качан і танцор

— Як навучыцца танцаваць? —
Спытаў качан, — з чаго пачаць?
Я спрабаваў, і шмат разоў,
Ды ўрокі браць
Мне трэба зноў.

— У гэткіх строях, мілы мой,
Вам не скакаць —
Гуляць зімой, —
Цыбуля першай ад усіх
З ухмылкай выказалася ўслых. —
У кажусе ды ў паліто
Не танцаваў яшчэ ніхто.

Падтакнуў ёй маўчун бурак:
«Ніхто, нідзе, так-так, так-так!»

Качан падумаў,
Зняў кажух,
І паліто ўраз долу — ш-шух!
Накідку зняў і зняў пінжак,
І выхадны нядзельны фрак,
Зняў хустку з шыі,
Зняў жакет,

Мо пяць кашуль —
За ім услед.

І ўсклікнуў раптам: «Не ўжо, не!
Нашто такія мукі мне?
Я ўборы ўжо скідаць прыстаў!» —
І распранацца перастаў.

І ўжо, хачу я вам сказаць,
Не спрабаваў ён танцаваць.



# Калі пасеяць град...





Варта пасеяць град
Летам або з вясны,
Можа быць, вінаград
Вырасце ледзяны,
Можа, тут сад узрасце,
Каб і праз шмат гадоў
Мог частаваць дзяцей
Смакам халодных пладоў.

Ды мне прызнаўся град:
— Быў бы я вельмі рад,
Каб у зямлі ляжаў,
Каб у цяпле я спаў,
Каб, весні чуючы гром,
Дрэвам я стаў ці кустом,
Каб мог увосень страсаць
З галля на дол плады…
Крыўдна… Магу я стаць
Толькі кропляй вады.



# Верны сябар



Сабака загаўкаў —
Ланцуг нацягнуўся,
І ганак раптоўна
З падмурка скрануўся,
Сцяна пахіснулася
І ажыла,
Кудысь па дарожцы
Пясчанай пайшла.



Сабака на рэчку
Купацца ідзе,
І дом за сабакам
Плыве па вадзе.
Плыве за сабакам
Рачулкаю дом.



Трубою віляе,
Нібыта хвастом.



А кошку заўважыць —
Яго не ўтрымаць!
Не спіць па начах —
Трэба двор вартаваць.
І любіць на сонцы
Ў пяску паваляцца,
Ды толькі зусім
Ён не ўмее кусацца.

Калі хто скажа,
Што так не бывае,
У горадзе гэтым
Хай сам пабывае.
Хай там адшукае
Сабаку і дом
І ўсё нам раскажа
Пасля перад сном.

# Балада пра пчолак і скрыпку



Тры пчолкі па полі гулялі,
Гулялі, мёд з кветак збіралі.
Гулялі ад ранку да ночы
І ў скрыпку папалі аднойчы.
Патрапіць туды не хацелі —
Зусім выпадкова ўляцелі.
Памкнуліся выбрацца,
Ды —
Адтуль ні туды ні сюды!
Заплакалі бедныя пчолкі:
— Бывайце, лугі і прасёлкі,

Бывайце, сяброўкі-кузуркі, —
Нам больш не гуляць у зумзулькі.
Бывайце, чмялі, стракозы, —
Без нас вам лятаць на пракосы.
Бывайце, званочкі, рамонкі, —
Не ўчуць вам больш нашай гамонкі.
Бывай, з мілай грэчкаю поле, —
Не выбрацца ўжо нам на волю…



Людзей жа здзівіла нямала:
— Што раптам са скрыпкаю стала?
Сама па сабе зайграла,
Заплакала, засумавала…



Скрыпач малады і вясёлы
Сказаў ім: «Ах, бедныя пчолы,
Як можна ўявіць такое,
Каб скрыпка вам стала турмою?»



І выпусціў пчолак на волю.
І змазаў смычок каніфоллю,
І ўзяўся складаць без адкладу
Пра пчол-паланянак баладу.

Ды скрыпка іграць не жадала,
Ўсё плакала і сумавала,
Як быццам хацела на волю,
Туды, дзе грачанае поле,
Туды, дзе лугі і пасёлкі,
Дзе кружаць над верасам пчолкі,
Дзе сонца садзіцца за борам
І сосны спяваюць з ёй хорам.

# Сонца-паштальён

Вожык ведае і мыш,
Зяблік ведае і стрыж,
Дуб сівы ў гаі зялёным —
Сонца
Служыць
Паштальёнам.



Так, вядома ўжо даўно —
На цямку ўстае яно
І ступае лёгкім крокам
Па палях,
Ярах глыбокіх,
Цераз гай,
Дрымучы лес,
З сумкаю наперавес.



Хоць на вуліцы і цёмна,
У акенца стукне промнем,
Ціха з ганка
Зойдзе ў дом,
Каб парадаваць пісьмом.
А ў пісьме ўсяго тры словы:
– Я вітаю з новым днём!



Вас, каза, і вас, карова,
Вас, люстраны вадаём!
Вас, лісіца,
Вас, сініца,
Вас, ячмень і сачавіца!
Ты ўжо ведаеш і ён,
Ліпа ведае і клён,
Сойка ведае і ўдод,
Кожны дбайны садавод:
Сонца
Ласкавы
Пагляд —
Гэта свята для зярнят:
Без цяпла ды ў цемнаце
Зерне хіба прарасце?



Пеўні, раннія адвеку,
Не пабудзяць: «Ку-ка-рэ-ку!»
І зязюліна ку-ку
Не пачуеш у садку.
І машыны —
проста жах! —
Заднююць у гаражах.



Вось чаму яно ўвесь год
Пачынае свой абход
Рана-раненька,
Калі
Спіць яшчэ ўсё на зямлі.
Сонца ведае: яму
Рады ўсюды, і таму
Не лянуецца, відаць,
Перш за ўсіх
Штодня ўставаць.

# Шпак і дрэва, якое бяжыць

Сядзеў на галінцы, разгойданай ветрам,
Спяваў як ні ў чым ні бывала,
І чую — панюхала дрэва паветра
І быццам на дыбачкі стала.



Відаць, адбылося штось,
вартае цуду,
Такога яшчэ не бывала…
А дрэва —
я гэтага век не забуду —
Яно па зямлі паімчала.



Спачатку трушком,
А пасля ўжо — галопам,
Не ўгнацца было б завірусе!
Імчала яно —
Толькі вецер пахлопваў —
Па полі,
Па лесе,
Па лузе.



Насустрач нам розныя птушкі
ляцелі,
Насустрач звяры выбягалі,
Ды ўсіх мы, хоць гэтага
вельмі хацелі,
Ні кропелькі там не здзіўлялі.

Ніхто з іх не ўсклікнуў:

«Вось цуды дык цуды!»

І крыкнула толькі сарока:

«Эй, лось, ты чаму не ўцякаеш нікуды?

Блукаюць ваўкі недалёка…»



# Казка пра зайца і бубен



Заяц бубен знайшоў у бары:
«Можа, нехта згубіў знарок?
Стукнеш лапкай —
Разбудзіш лісу ў нары.
Кінеш бубен —
Прачнецца воўк».

Як жа беднаму зайцу быць?
Як ранейшы спакой вярнуць?
Страшна лапкай паварушыць,
Страшна хвосцікам варухнуць.

Можа, нехта ўжо сочыць здаля?
Можа з роспачы воўкам завыць!..

Раптам чуе ён трэск галля,
Азірнуўся — мядзведзь стаіць.

— Добры дзень! Як жывецца, брат?
Што не скачаш, чаму не рад?
Што разгублены гэткі стаіш,
Як асінавы ліст дрыжыш?

— Я… тут… бубен знайшоў… нясу, —
Прашаптаў ён і тут жа замоўк.
Стукнеш лапкай —
Разбудзіш лісу,
Воўк прачнецца —
Зубамі шчоўк!



— Дай мне бубен, —
сказаў мядзведзь.
Зазвінела на бубне медзь.
— Ах які меладычны звон!
Паглядзім, як іграе ён.

Ну-тка, заяц, не бойся, давай
Бі ў свой бубен,
Яму падпявай,
І крычы, каб маглі ўсе пачуць, —
І, павер, воўк з лісой уцякуць!

# Начны канцэрт

Вы на канцэрт не купілі білет?
Як не купілі?!
Я выдам сакрэт:
Завідна вы пасляшайце ў жытло
Рыжай вавёркі —
У дубе дупло.

Там не арэшкі вавёрка грызе,
Там па білеты стаяць у чарзе,
Дайце цукерку ёй ці жалудок —
І атрымаць пашанцуе квіток.



Толькі апусціцца вечар з-за хмар,
Цішай навокал атуліць абшар,
Ветрык задрэмле, зрабіўшы аблёт,
Песню сваю запявае чарот,
Следам за ім запявае трава,
Ёй адгукаецца з цемры сава.

Чуеце, чуеце, побліз палянкі
Песні запелі смаржкі і ваўнянкі,
Следам за імі запелі страчкі
І цвыркуны падхапілі смычкі:
Ім, скрыпачам адмысловым, на месцы
Сола ў канцэрце
Даверна весці.

І запішчалі захоплена мошкі:
— Гэй, камары, расступіцеся трошкі!
Іх адцясніўшы, пусціліся ў скокі,
Аж пацямнелі ад пылу аблокі.

Гулка забілі зайцы ў барабаны,
Гай заспяваў, заспявалі паляны.
Шэпчуцца травы —
Матыў у іх свой.
Ёсць ён у клёнаў, алівы і хвой,
Ёсць у гліны і ёсць у пяска,
Ёсць у аера ён і ў лазняка,

Ёсць у падгор’яў і ёсць у раўнін —
Сотні матываў зліюцца ў адзін.

Вы на канцэрт не купілі білет?
Як не купілі?!
Не ўсталі чуць свет?
Часу, вы кажаце, мелі не ўсе
Днём па білеты стаяць у чарзе?

Можа, канцэрт не здаволіць кагось,
Вы ж пасяшайце —
Пачнецца вось-вось…



# Воблачны паляўнічы

Паляўнічы воблачны
Увайшоў у лес
З воблачнаю стрэльбаю
На-пе-ра-вес.
Ведаў ён:
У воблачных дрэвах і кустах
Водзяцца вавёркі,
Незлічона птах.

Ды яму не рады птушкі і звяры:
«Воблачныя дуплы, уратуйце нас!»
Стаў ён, углядаецца
У гушчар сыры:
«Дзе хто затаіўся?
Дзе схаваўся ўраз?»

Раптам што за грукат
Пракаціўся там? —
Воблачная стрэльба
Грымнула, як гром!



Бліскавіцай, высь рассекшы папалам,
Воблачная стрэльба
Грымнула, як гром!
Воблакі грувасцяцца,
Воблакі трымцяць.
Мітусяцца дрэвы, нават пні.
Хтосьці напалохаўся:
Бачыш, як ляцяць
Светлыя слязінкі з вышыні!..

Паляўнічы з лесу крочыць весялей —
Воблачная ўсмешка,
Воблачны настрой:
Воблачнага рабчыка —
Воблачны трафей —
Нёс дамоў у сумцы за спіной.



# Іней



Чараўніца фея раскідала ўмела
Срэбныя карункі на сцяблінкі, шкло.
А, усё зрабіўшы,
Ціха адляцела,
Каб схавацца, покуль сонца не ўзышло.

Дом яе, быць можа, — у пустыні свету,
Воблака, што дыша шэрым халадком,
І яна планетай,
Інеем адзетай,



Цэлы дзень любуецца тайком?
Ці ўжо там чакае фею рана-рана
Зімні лес — сядзіба лесуноў?
На кужэльных крылах першага туману
Фея зноў вяртаецца дамоў.



Ці лагодных зорак у нябёсах цёмных
Наша фея — мілая радня?
Быццам балярыны,
Нас на ножках-промнях
Дзівяць танцам да прыходу дня…



А мо фея наша, што карункі вяжа,
І ў нябёсы можа матыльком лятаць,
Схованку пакіне,
Нам сама падкажа,
Дзе яе ў марозны дзень шукаць?







# Змест





**Мілітанян, Э.**

М60 Паветраны дом : вершы : для дзяцей малод. шк. узросту / Эдвард Мілітанян ; пер. Міколы Чарняўскага; маст. Дана Рунова. — Мінск : Звязда, 2015. — 32 с. : іл.

ISBN 978-985-575-069-8.

Эдвард Мілітанян — вядомы армянскі паэт, аўтар шматлікіх кніг. Кніжка «Паветраны дом», як і некаторыя іншыя, напісана ў займальна-казачным стылі, прасякнута тонкім гумарам. Праз сваіх герояў паэт вынаходліва апавядае цікавыя гісторыі, якія адкрываюць для дзяцей новы, маляўнічы свет.

Творы Эдварда Мілітаняна былі ўдастоены многіх прэмій, у тым ліку — прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Арменія. А зборнік вершаў «Паветраны дом» у свой час быў адзначаны прэміяй на маскоўскім кніжным фестывалі «Свет дзяцей». Ён выдаваўся не толькі ў Арменіі, але і за яе межамі. На беларускую мову вершы, якія ўвайшлі ў зборнік «Паветраны дом», пераклаў вядомы паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Мікола Чарняўскі.

**УДК 821.19-93**
**ББК 84(5Арм)-5**

Літаратурна-мастацкае выданне

**МІЛІТАНЯН** Эдвард

**ПАВЕТРАНЫ ДОМ**

*Вершы*

Рэдактар *А. В. Жабінскі*
Мастацкі рэдактар *В. Г. Паўлавец*
Камп'ютарная вёрстка *Н. В. Урбановіч*
Стыльрэдактар *В. А. Аляксеева*

Падпісана да друку 07.12.2015. Фармат 70×100 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,60. Ул.-выд. арк. 2,21.
Тыраж 1000 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

ТАА «ЮСТМАЖ».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/68 ад 19.03.2014.
Вул. Каліноўскага, д. 6 Г 4/К, п. 201, 220013, г. Мінск.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
прапануе чытачам кнігі серыі **«Вясёлы калейдаскоп»**
па наступных коштах:




Алесь БАДАК

## ЗОРКА ДЛЯ ВАВЁРКІ

24.500

Ці можа пеўнік навучыцца чытаць, а жаба — тая самая, што жыве на балоце, — скончыць кансерваторыю? Пісьменнік Алесь Бадак перакананы, што тут нічога неверагоднага няма, яшчэ і не такое можа здарыцца ў свеце. Праўда, у свеце казачным, дзе і жывуць героі яго новай кнігі. Юных чытачоў чакаюць цікавыя і вясёлыя гісторыі, якія вучаць дабрыні, стараннасці, спагадзе, а перадусім вучаць бачыць у паўсядзённым незвычайнае, тое, што можа быць створана толькі з дапамогай фантазіі.

Вольга САВАСЦЮК

## ЮЛІН РЭСТАРАН

36.100

У кнігу ўвайшлі вершы, загадкі і казкі. Вы прачытаеце, як адпачывае ў бабулі ў вёсцы дзяўчынка Юля. Яна расла ў вялікім горадзе і прыехала на канікулы сюды ўпершыню. Напачатку дзяўчынцы стала сумна, але потым Юля знайшла для сябе цікавы занятак — яна адкрыла рэстаран для птушак і жывёл, якія жылі на падворку. Аднак не ўсё так атрымалася, як планавала дзяўчынка. І тады на дапамогу прыйшла бабуля…
Кніга таксама раскажа аб ласунках, якія так любяць дзеці. Але, каб пазнаць той ці іншы, трэба ўважліва прачытаць загадкі і разгадаць іх. Казкі і вершы напісаны з гумарам і выконваюць выхаваўчую функцыю.







Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

## КАЗКІ ЧАРАЎНІЦЫ ЗІМЫ

32.100

Гэта кніга чароўная! У любы час, варта толькі зазірнуць пад вокладку, яна перанясе чытачоў у дзівосныя святочныя дні. Тыя, калі і дзеці, і дарослыя чакаюць цудаў. І яны сапраўды адбываюцца! Аб самым незвычайным вам раскажуць героі казачных гісторый. Пазнаёмцеся з імі, сябры, і вы пабываеце ў чароўным свеце казак, даведаецеся, як здзяйсняюцца цуды, і навучыцеся не толькі заўважаць іх у звычайным жыцці, але і ствараць для тых, каго любіце.

По пытаннях набыцця кніг звяртайцеся
ў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» па адрасе:
Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефон: (8017) 284-79-65.